С. Некрашэвіч

# ЛЕМАНТАР



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1927

С. Некрашэвіч



# ЛЕМАНТАР

ВЫДАНЬНЕ ЧАЦЬВЕРТАЕ, СТЭРЭОТЫПНАЕ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1927

**Аа**



А-а-а! А-а-а!

*Аа*

**Уу**



Ау-у!

*Уу*

**Мм**



Ам!

*Мм*



Му!

Ма ма Ау!

уа

*мама*

## Рр





Рама

*Рр*

Мур
му ра
му ру
му рам

а ру
ра ма
ра му
ма ра

*рама, ару, мара*

## Ыы



Рамы

*ы*

*рамы*



Ару

а ру
а ры

му ры
ра мы

У мамы рама
У муры рама

*у мамы рама*

## Кк



Рак

*Кк*

*рак*

рак
ра ка
ра ку
ра кам
ку ку
ку ры
ку ма
ка ра

му ка
ру ка
мак
Ма кар
ка мар
рык
крык
крук



Ку ку

*У Макара мак*



Камары

## Шш



Мыш

*Шш*

*мыш*



А кыш, куры!
Крышу шышку

мыш
мы шы
ка шу
ка ша

мышка
шыш ка
шур ка
кры шу

*мышы, каша*

## Сс



Смык

*Сс*

*сук*



| | |
|---|---|
| а са | кус |
| ка са | сам |
| ра са | мак |
| су ша | смак |
| су шы | смык |
| сук | мас ка |
| сыр | крас ка |



Сушу сыры. Мама, аса!
Сушы краску.
У расу сам кашу.

*У расу сам кашу*

## Оо



Само

*Оо*

*само*



Сарока

мо ра
ко сы
са ро ка
рос



Сом

сок
зрок
крок
мок ра
кос ка

кор ка
ско ра
кош ка
ку сок
со рам

Мак рос.

У мамы кусок сыру.

Кошка скок на мышку.

*сарока, мора*

# Лл



Кол

*Лл*

*кол*



Ласка

ка ла
ка лу
ка лы
ма лы
лы ка
са ла
ма ла

ма ла ко
ма ло ла
сма ла
шко ла
лас ка
лыс ка
ка лыс ка



**Сушу салому.**

**Лыска малы.**

**У кашы мала сала.**

**Мама калыша калыску.**

Колас

*мама калыша калыску*

**Іі**



*Іі*

*ласі*

Ласі



ка сі ліс
сі ла ліс ка
ка лі міс ка
ку лі ко лік
ра кі ка ло лі
ру кі ка ра́ лі
мі лы ка сі лі



Клім. Максім. Кірмаш. Кіслы сок. Мы мылі рукі. Мама, салі кашу. У Кліма мала сілы.

Максім і Мікола касілі, а мы сушылі. Мілка і Лыска рушылі ліса.

*Максім і Кім касілі*

## Нн



*Нн*

*клін*



| | | |
|---|---|---|
| клін | на сі ла | нор ка |
| клі на | ка му на | сук но |
| клі ну | нос | ка рыс на |
| ра на | сон | ма лан ка |
| на ры | сын | млос на |
| шы на | Сы мон | сны |
| ко ні | рос на | крос ны |
| а сі на | нож ка | |

Сарока на суку. У Сымона сыны. У нас мала масла. Куліна карміла сына. Малому Раману млосна. Коні нам карысны.

*Коні нам карысны*

## Тт



*Тт*

*кот*



Сіта

| | | |
|---|---|---|
| кот | тут | ка ры та |
| ка та | тук | кру та |
| ка ту | ток | рот |
| ка ты | кут | крот |
| та та | ку ток | куст |
| ру та | ка ток | мост |
| там | ма ток | ліст |
| так | та ран | трус |

Тата на таку. У кутку стол. Наш кот сыты. Марта лавіла ката. У нас тры каты. Мілка трымала костку. Стары Тарас трос салому.



Ас-



-от



С-м



Мам-



Ра-а



-ані



Ко-і



М-шка

*Тарас трос салому*

а у м р ы к ш с о л і н т

# Вв



Вусы

*Вв*

*вусы*

| | | |
|---|---|---|
| во ка | ка ва | ву шы |
| ву сы | ла ва | ва шы |
| во сы | ва лы | ва ры ла |
| мо ва | вы лі | ру ка вы |

| | | |
|---|---|---|
| вы со ка | вол | ка ва лак |
| ка ва лі | вар | кры вы |
| ка ро вы | Вар ка | квар та |
| вус | вак но | рва ла |
| вам | та вар | твар |

На суку сава. У Рамана вусы. Вакно высока. Мама варыла каву. Варка мыла валасы. Восы кусалі вала. Вашы касілі віку. Варона нашла кавалак сыру. Варка рвала каровам траву.

*Варка рвала траву*

# П п



*Пп*

*сноп*

Снапы



Павук

| | | |
|---|---|---|
| сноп | па ло сы | пар кан |
| сна па | ка на па | плот |
| сна пу | ку па | слуп |
| сна пы | пук | куст |
| ла пы | пыл | пал ка |
| лі па | пол | шап ка |
| ка па | па лок | па лат ка |
| па ва | Пі ліп | ла пат ка |
| лі ла | па вук | Па рас ка |
| па ра | пра кос | шпар ка |
| па ро ла | пра нік | |



Пава



Плот

Мы пісалі. У павука лапы. У кутку па катку. Карова піла памыі. Панасавы аралі на папар Патапу купілі шапку. Параска памыла вокны.

Параска і Панас палівалі капусту.

На полі расло проса

# Ее



Елі

Ее е
елі

| | | |
|---|---|---|
| ем | пе на | мер ка |
| е ла | ве ка | сер ка |
| се ла | ма е | ве рас |
| се на | шы е | не рат |
| ме ла | а ле | ве нік |
| ме ра | лес | А ле на |
| Ве ра | мел | вет ры |
| ме на | сек | лепш |
| ле та | век | кеп ска |

На елі шышкі. Мы елі сыр. У лесе рос верас Вера шые, а Раман сее. Улетку мы рвалі кветкі У лесе нешта стукнула. Ветрык вее нам у твар.

У нас саветы.

Вера рвала кветкі

    

Ву-ы Л-с Вуш- Рук- -алы

  

-іла Ла-а Вос-

   

Пн- Тру- Ка-ов- Ко-а-

## Жж



Жне

*Жж*

*жне*

жы ла ры жы вуж жур
жа ла ме жы нож жне
са жа ву жы жар ра жок
ро жа жу кі жыр лу жы на

жу ра ві ны
жа ва ра нак
жор ны
жа лас на
жва вы
кры жы
жар ства



Жук

У ко мі не
са жа



Вожык

Пры лужыне вужы. Алена жала жыта. У млыне малолі жыта. Вала кармілі мурожным сенам. Верка нашла новы нож. У нас жылі вожыкі. Вожыкі лавілі мышак. У пана мы жылі пагана.

*Прыйшло лета. Мама жне жыта, а мы носім снапы. Нам весела.*

# З з



Звон

*З з з*

*звон*

ка за
ла за
зі ма
ле зу
за ра
зо ла та
му зы ка
па зу ры

жа ле за

за ма за лі

воз раз
зык злы

ма роз  
ро зум  
каз ка

зор ка  
за ран ка  
раз лу ка

пры каз ка  
ры зы кант



Вазон

Каза палезла на лазу. Тата з Панасам кавалі жалезны сашнік. Зіма замарозіла кветкі. Зосіна мама жыла за лесам. Змрокам мы прышлі з лесу.

Мама расказала нам казку.



Мышка капала норку. Котка злавіла мышку. Шкада мышкі.



*Мурза злы, але разумны*

# Д д



Дровы

*Д д*  
*дровы*

| | | |
|---|---|---|
| ва да | лад | |
| ва ду | суд | |
| і ду | дар | |
| са ды | дол | |
| да мы | на род | |
| ку ды | ра док | |
| ду жы | су сед | |
| ра да | ду дар | |
| па ра да | дар ма | |
| Да ні ла | дум кі | |
| да ры ла | дур ны | |
| да лі на | від на | дро вы |
| ма ла ды | дош ка | зго да |
| дым | дно | шко да |
| дом | двор | гра ма да |
| сад | дрот | шка да ва ла |



Дудар

Іду па лесе. У даліне камары. Да нас прышлі дудары. У суседа новы дом. Мама пашкадавала Агатку. У нас за дваром малады садок.

## Дразды.

У садку жылі дразды. Мы ім з дошак злажылі дамок і павесілі на ліпу. Дразды елі мошак. Мы ім прыносілі крошкі ад сыру. У нашым дамку дразды пражылі аж да восені.

*У сераду Адам і Даніла секлі дровы, а мы з татам вазілі да дому. Дровы мы складалі пад паветку.*

## Б б



Брама.

*Б б*

*брама*

| | | |
|---|---|---|
| ба ба | бы лі | лоб |
| ба бу | бо са | боб |
| ба бы | бе лы | аб рус |
| зу бы | ра бі на | ба ран |
| шы ба | са ба ка | бі зун |
| ры ба | бу ра кі | бок |
| жа ба | за ба ва | бык |
| бу ра | бе ла ру сы | зуб |



Баба



Бусел

Мама варыла боб. Мы беларусы. Мурза добры сабака. Бура выбіла шыбу. Брат піша ліст. У Сымона балелі зубы. Брама зроблена з дошак. Рыбакі лавілі рыбу. Буслы злавілі жабу. У нас пад вакном расла рабіна.



Барсук



На полі рос дуб. На дубе былі жалуды. Прашло лета. Жалуды ападалі з дуба. Прышлі кабаны, сталі пад дубам і елі жалуды.

   

*ка-а -аба зу-ы рыб-*

   

*бел-а -аран саба-а ба-ана*

*Бура выбіла шыбу*

# Г г



Грыбы

*Г г*

*грыбы*



Дуга

| | | | |
|---|---|---|---|
| ду гі | гу бы | ро гі | да ра гі |
| ду гу | на га | го ні | год |
| га ра | ва га | гу лі | рог |
| гу сі | но гі | га ла ва | гус ка |

| | | |
|---|---|---|
| гор ка | го луб | ста гі |
| гум но | бе раг | га рот ны |
| гол ка | га род | глы бо кі |
| Ры гор | грыб | гры мо ты |
| за гон | гром | га вор ка |
| го лас | глум | гас па дар |



Граблі



Белы галубок. За гарамі грымоты. Гусі селі на загон. Агата згубіла голку. У лесе рагатала сава. Мама прышыла мне гузік. У лесе мы голасна гукалі. Агата знашла белага грыба.

## Грыбы.

У нашым лесе расло многа суравежак. Былі там і падасінавікі, але мала. Суравежак мы набралі два кошыкі. Агатка нават знашла аднаго баравіка. Грыбы мы варым, смажым і сушым.

### Прыказка.

Сыты галоднаму не спагадае.

*Нашылі Рыгору боты. Прымерваў Рыгор боты ды кажа: „Нага зашырока!" А матка адказвае: „Не нага зашырока, а боты завузкі!"*



# Ь

*ь ь*

*каваль*

конь
куль
руль
лень
пень
соль
боль

*стол — столь*
*вугаль — вугал*



Конь

лось
вось
а гонь
кі сель
Ва сіль
ка валь
ка мень
стань
згінь
да лонь

буль ба
Воль ка
Ан тось
песь ні
Га нуль ка
Ма рыль ка
Бе ла русь
столь
скрозь
на столь нік
род нень кі

Каваль куе сашнік. Ганулька гнала гусі. У сераду мама варыла кісель і бульбу. Васіль і Антоська разлажылі агонь. На выган выбег малады конь. У малога Зьмітрака на назе болька. Антось і Васіль адпілавалі дубовы камель. Беларусь наша старонка.

## Зіма.

Посьле восені наступіла зіма. Прышлі маразы. Замерзла вада. Нападала многа сьнегу. Са сьнегу мы зрабілі бабу. Нам было вельмі весела.



Ро-і Ло-ь Вос- Во-ун-

*Каваль куе сашнік*

# Х х



*Х х*
*пастух*



мех не хта

мох хма ра

сох хунт



| | | | |
|---|---|---|---|
| ха та | ход | хут ка | ха мут |
| хі ба | дух | Хім ка | ду ха та |
| му ха | хор | хо ра ша | рах ма ны |
| су хі | тхор | ху до ба | па лах лі вы |
| са ха | хто | хва ро ба | хуст ка |

На небе хмары. У норах мышы. За хлевам у нас гарох. Наш конь рахманы. Мы злавілі тхара. Лось палахлівы зьвер. У мех насыпалі гароху. Павук большы за муху.

## Хімка.

Казала мама: „Хімка, апрані кажушок, бо холадна!“ Хімка была непаслушліва. Выбегла на двор без кажушка. Не паслухала Хімка мамы, а праз два дні была хвора.



*Прышло лета. Мы з Хведарам насілі се-на. Праз два дні се-на высахла. Сухое се-на мы зграбалі, клалі на воз і ва-зілі да дому.*

**Я я**



Хвоя

*Я я*

*хвоя*



Шыя

| | |
|---|---|
| я ма | ля ля |
| я на | во ля |
| я кі | до ля |
| я ны | ку ля |
| і мя | ду ля |

| | |
|---|---|
| ся ло | яб лык |
| мя та | віш ня |
| я ры на | хво я |
| я га да | бя роз ка |
| яс на | Пят русь |
| яр мо | шлях |
| яг ня | клям ка |
| ям ка | лазь ня |
| я зык | песь ня |
| мя са | нянь ка |

У мяне была лялька. У вас добрая ярына. Мы рвалі яблыкі. Кепская твая доля. Па шляху расьлі бярозкі.

„Куды ты, Пятрусь?“ „У лес іду я. Там нашыя коні“. „А хіба табе ня страшна. Там-жа баба-яга!“ „Малы ты, Якуб, і розуму маеш мала: ніякай бабы-ягі няма“

У яблыках злавілі малога Янку. Янка ім і кажа: „Я-ж вам сваяк“. А яму адказалі: „Дык ты-ж сваяк нам, а ня нашым яблыкам“, і адабралі ад яго яблыкі. Удому матка насварылася на Янку.

**Прыказка:** Як дбаеш, так і маеш.

**Загадка:** Сярод поля капыток.



*Алеся з Янкам ішлі па мя-жы. З аднаго боку рос яч-мень, а з другога жыта. Паміж жытам пракідаліся сінень-кія васількі. Алеся з Янкам рвалі ва-сількі, а дома плялі з іх вянкі.*

# Ц ц



*Ц ц*

*палец*



Лісіца

па лец
паль цы
паль ца
ца пы
ца на
ца ца
це ла
ці ха
ма ці
се ці
ці хі
це ні
ву лі ца
су ні ца

ра ні ца
па лі ца
выць
мыць
даць
біць
шыць

па шыць
гось ці
кось ці
есь ці
несь ці
ку пец
цу кер

цы ган
па цук
по куць
баць ка
ка сіць
пра сіць
пра ца
плесь ці
кра вец
зар ні ца
цы ган ка
гась ці нец
мы ец ца
кру ціц ца



Маці дала Цімоху цацу. Госьці селі на



покуці. Старац просіць хлеба. Сабацы далі костку. Хлопцы малацілі пшаніцу. У нашым лесе расьце яловец. Кацярына брала ваду з крыніцы. Кот мыецца лапкамі. Па вуліцы гналі скаціну. У крыніцы вада не замуціцца. Ці цот, ці лішка?



*Вясна.*

*У сакавіку прышла вясна. Сонца зганяе апошні сьнег. Па вуліцах бяжыць вада. На кургане патрохі абсыхае зямля. Скора зацьвіце першая кветка — курасьлеп.*

# У ў



*Уў*

*леў*

леў
меў
сеў
жыў
быў
жаў
даў
кроў
хлеў



Воўк

ваў кі
жоў ты
Саў ка
воў на
жаў на
паў зе
да лоў
да ваў
да моў

ка роў ка
га тоў ка
га лоў ка
ко наў ка

каў нер
саў сім
праў да
крыў да

хлеў
плеў ка
смоўж
ўжо

мы ў по лі яны ў ле се

Саўка насек дроў. Кравец прышыў каўнер. Даўно ўжо тое было. Ваўкі схапілі аўцу. На неба ўзышло сонца. Не гані каня дубцом, а гані аўсом. У Аўсея на пальцы кроў. Воўк з ялоўца выбягае, адкаціўшы сівы хіб.

## Ліс і крот.

Пытаў ліс у крата: „Нашто ты капаеш, браток, такія вузкія норы?“ „На тое, каб ты да мяне ў госьці ня прышоў“, адказаў крот.

### Прыказка.

На воўка памоўка.

### Загадкі.

Каля ямы ўсе з кіямі. (Міска).

Пабеглі ў лясок, задраўшы насок. (Сані).

*Яўхім віў вяроўку. Сказаў, як зьвязаў. Воўка ногі кормяць. Кароўкі вярнуліся з пашы дамоў; іх загналі ў хлеў. Рыгор сеў на лаўку. Мы доўга плылі ў бурным моры.*

# Й й



Вулей

*Й й*

*вулей*

| | | | |
|---|---|---|---|
| гай—у гаі | рой | мый | гай |
| край—у краі | лой | шый | ай |
| ой | мой | вый | вей |



| | | |
|---|---|---|
| сей | рой | |
| дуй | строй | |
| той | строй на | |
| стой | вай на | |
| свой | стай ня | |
| твой | жа лей ка | зай цы |
| рай | ся мей ка | лей ка |
| край | ка пей ка | трой ка |
| клей | лі ней ка | сой ка |
| ву лей | бай ка | хвой ка |

На хвойцы вісеў вулей. Тата! Пашый мне новыя боты. Мы злавілі рой. Мама расказала мне байку. Няхай жыве наш родны край, Беларусь!

Ай-ай, вось табе й месяц май!
Каню сена дай, а сам на печ уцякай.

**Прыказкі:** Перш папрацуй, а тады й патанцуй. Якая пташка, такая й песьня. Прапала кароўка, няхай прападае й вяроўка. Насіў воўк—панясьлі й воўка.



Са-а



Му-а



Лей-а



-гада



Вера-ей



Каро-ка



Со-ка



Хл-ў

*Наш родны край — Беларусь.*

# Ээ



Арэ

*Ээ*

*арэ.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| гэ та | цэ ны | рэ жа | цэ бар | грэх |
| бэ ра | цэ лы | га зэ та | трэ ба | грэш ны |
| шэ ры | рэ ха | а рэх | па трэ ба | жэрд ка |





рэ па
цэп
рэш та

рэд кі
рэ зацъ

рэ ша та
зга рэ лі
на грэ лі

Шэры кот злавіў мыш. Бэры вельмі салодкія. Каля лавы стаіць цэбар. Праз канаву перакінулі жэрдку. У гэтым гаду згарэлі арэхі. У лесе адгукнулася рэха. Трэба шанаваць бацькоў. У нас шмат курэй.

## Рэха.

Косьцік з бацькам пашлі ў лес. Косьцік гукнуў: „Эх!“ і ў лесе адгукнулася: „Эх!“ Косьцік: „Эгэ!“ і ў лесе: „Эгэ!“—„Хто гэта там гаворыць?“ спытаўся Косьцік у бацькі. А бацька адказвае: „Там нікога няма; гэта рэха“.

**Прыказкі:** Як гукнеш, так і адгукнецца. Наш Андрэй за ўсіх мудрэй.

*Гэй, вы, коні, гэй малыя! Што заснулі? весялей! Гэй жа бегам, залатыя, варушэцеся жывей!*

# Чч



Чч
печ

Печ



час та
чэр ві
руч ка
чут ка



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| во чы | но чы | чор ны | чап ля | кач ка |
| гу бы | чу жы | час | аб руч | смач на |
| чу лі | ку ча | чыс та | шчы ра | чэсьць |
| са чы | лыч | чар ка | брыч ка | сароч ка |
| ноч | чад | воч ка | шчась це | шча бе ча |

Пад карчом мы бачылі гада. Чубатая курачка зьнесла яйцо. Сабака прысачыў тхара. Тата возіць ячмень. Качка схавалася ў чарот. На бочку нагналі абруч. Нас частавалі смачнымі стравамі. Гэты чалавек шчыра працуе. Вучням задалі задачы. Рабочыя й сяляне прагналі паноў і багатыроў.

**Прыказкі:** На печы добрыя рэчы.
Чым багаты, тым і рады.

**Загадка:** У маленькім гаршчочку каша смачненькая.



# Не мані.

Пасьвіў хлопчык каля лесу авечак. Захацелася яму настрашыць гаспадароў. Хлопчык пачаў крычаць: „Ваўкі, ваўкі!“ Прыбеглі гаспадары і бачаць, што ваўкоў няма. А хлопчык сьмяецца. У другі раз і запраўды прыбеглі ваўкі. Колькі на гэты раз хлопчык ні крычаў, але ніхто ня прыбег ратаваць, і ваўкі перадушылі ўсіх чыста авечак.



# Два козьлікі.

Праз няглыбокі раўчачок была перакінута кладачка. Пасярод яе спаткаліся два козьлікі. Ні той, ні другі не хацелі саступіць з дарогі. Яны пачалі букацца Букаліся, букаліся ды абодва й паляцелі ў ваду.

# Чырвоная армія.



Чырвоная армія гэта ўсе мы, працоўныя. Чырвоная армія абараняе нас ад буржуяў і ўсіх іншых ворагаў рабочых і сялян.

## Ёё

ён
лён
лёд



Ё ё ё

калесы

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| мёд | вёд ры | ка зёл | зёр ны | цёт ка |
| нёс | ка лё сы | а сёл | Пёт ра | лёг ка |
| сё мы | жы вё ла | а вёс | цёл ка | ём ка |
| ёў ня | вя сё лы | вёс ка | Нё ман | клён |

Пчолы носяць мёд. З агнём кепскія жарты. Асёл падобны да каня. Пётра пасеяў лён. Майму брату пашоў сёмы год. Куры клявалі зёрны. У ёўні сушаць жыта. Цётка прывезла мне гасьцінца. За нашай вёскай хваёвы лес: ён заўсёды зялёны.

**Загадка:** У сямёх кажухох і то мерзьне.
(Цыбуля).

## Дагадлівы.



Прысьнілася аднаму хлопчыку каша. Вельмі захацелася зьесьці яе, але ложкі ня было. У другі раз лёг ён з ложкаю, але кашы ня было.

## Каму цяжэй?



Сані кажуць: „Нам узімку цяжка!“ Калёсы кажуць: „Нам улетку цяжка!“ А конь кажа: „А мне і ўлетку і ўзімку цяжка“.

*Наша вёска стаіць каля Нёмну.*
*Нёман вельмі прыгожая рака.*
*Яна цячэ між узгоркаў і далін.*
*Улетку мы купаемся ў Нёмні й ловім рыбу.*

# Фф



*Фф*

*футра*



Шафа

| | |
|---|---|
| фут ра | фран цуз |
| фар ба | шуф ля да |
| коф та | фэст |
| ку фар | штраф |
| фур ман | фор ма |
| фар тух | фал да |

Марыля пашыла муфту і фартух. Сталяр зрабіў куфар. У нас на пакровы фэст. Флёрык працуе на фабрыцы.

## У школе.



Фэлька прышоў у школу. Далі першы званок. У клясу ўвайшоў настаўнік. Фэлька чытаў, пісаў і разьвязваў задачы. Фэлька вельмі добра слухаў настаўніка. Настаўнік пахваліў Фэльку.



Ц-п



Чар-а тэле-он -ар-ух

*У Францыі многа фабрык*

# Ю ю



Зязюля

*Ю ю*

*зязюля*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ю зя | чу ю | юш ка | Паў люк |
| да ю | ка люч ка | Юр ка | ма лю нак |
| мы ю | ма ю | люль ка | ключ |
| ра ю | сю ды | цюць ка | люст ра |
| шы ю | ка ню шы на | кап цюр | лю ты |

Я чытаю. Юзя сьпявае вясёлую песьню. Паўлюк мае капялюш. Малы Юрка гуляе з люстрам. Бацька зрабіў люльку. Нашы пасеялі канюшыну. Я люблю слухаць казкі. Ураньні кукавала зязюлька.

**Прыказка:** Усюды добра, а дома ляпей.

**Загадка:** Еду, еду—ні дарогі, ні сьледу; сухім паганяю, на сьмерць паглядаю. (Човен).

* * *

Баю, баю баечку,
Граю, граю граечку.
Лёгка байкі баюцца,
Лёгка грайкі граюцца
Каля роднай матанькі,
Каля роднай хатанькі.

*Цёплы вечар. Ціха ўсюды, хмаркі захад чуць заслалі тонкім валаконцам. Зьяюць хмаркі ў пазалоце, як агнём палаюць. За гарою ціха, ціха песьні заміраюць.*

## Экскурсія.

Учора ў нас была экскурсія на цагельню.

На цагельні робяць з гліны цэглу. Сырую цэглу перш сушаць у вялікіх паветках, а пасьля апальваюць яе ў вялізарных печах. Апаленая цэгла робіцца вельмі цьвёрдай і моцнай.



З цэглы мuруюць камяніцы і робяць печы На цагельні працуе шмат рабочых.

# Дз дз



Дзед

*Дз дз*

*дзед*

дзя ды
дзя га
дзя жа
дзе ля
дзі ва
дзі кі
дзе ці
дзын
дзе
дзень

а дзін
дзя куй
ся дзі
вя дзі
гля дзі
дзе сяць
дзьве ры
дзё гаць
ты дзень

ня дзе ля
ва дзі ца
дзы ба ты
дзядзь ка
дзя лян ка



Мядзьведзь



Дзюба

У дзеда сівая барада. Дзеці гулялі ў садзе. Дзяўчына прадзе новую кудзелю. Дзядзька купіў новую дзягу. Тыдзень мае ў сабе сем дзён. Тата пасадзіў каля хаты грушку. Пры спатканьні мы кажам: „Дзень добры!“

**Прыказка:** Вялікае дзіва, што карова чорна, а малако сіва.

**Загадкі:** Поўна бочачка віна, нідзе дзірачкі няма. (Яйцо).



Поўна бочачка круп, а на версе струп. (Макаўка).

## Дзіцячыя акуляры.

Кажа Янка да бабулі: „Бабуля! купі мне акуляры. Я таксама хачу чытаць кнігі“. „Добра,“ адказвае яму бабуля, „я куплю табе акуляры, толькі дзіцячыя“—і купіла ўнуку лемантар.

**Прыказка:** Дзіця ня плача, маці не разумее.

**Жарт:** „Ціт, Ціт! Ідзі малаціць“. „Жывот баліць!“
„Ціт, Ціт! Ідзі кісель есьці! „А дзе мая вялікая ложка?“

**Дж дж**



Мажджэр

*Дж дж*
*дождж*

| | | | |
|---|---|---|---|
| дождж | ва джу | ха джу | браж джаць |
| даж джы | ся джу | дрож джы | са джа ны |
| бу джу | гля джу | бар джэй | раз на джа ны |

Пчала кусае джалам. Тата прывёз з мястэчка дрожджы. Наша вуліца высаджана вербамі. Барджэй хадзем да хаты, бо зараз будзе дождж. Я штодня буджу свайго меншага брата. На градах пасаджана расада. Я ня крыўджу нікога. Касец наладжвае касу. Я ў нядзелю пайду ў поле й пагляджу на ўраджай.

**Прыказка:** Не ўважай на ўраджай, а жыта сей.



## Летні дожджык.

Хмары аблажылі неба з усіх бакоў. Грыміць гром; бліскае маланка. Дождж льле, як з вядра. Я сяджу каля вакна і гляджу, як на вуліцы раўчакамі бяжыць вада. Скора дожджык перастане, і на небе выгляне яснае сонейка. Усё зазелянее, і ў садку весела зашчабечуць птушкі.

## Электрычнасьць.

Бачылі людзі маланку, дзівавaліся і палохаліся яе. Пасьля навучыліся машынамі здабываць той агонь і асьвятляць ім хаты.



Ёсьць ужо і ў нас на Беларусі вёскі, у якіх хаты асьвятляюцца ня лучынай або газай, а электрычнымі лямпачкамі.

У гарадох электрычнасьць ня толькі асьвятляе хаты, а круціць калёсы і робіць розную работу.







*п'яўка*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| п'яўка | сям'я | п'ю | б'ю | аб'е хаць |
| пер'я | ве раб'і | зьвяр'ё | аб'ед кі | ад'езд |

Чэрві аб'елі лісьце. Ён аб'ехаў цэлы сьвет. П'яўка ўпілася ў цела. Па лесе цягаецца зьвяр'ё. Я п'ю гарбату. На Юр'я выганяюць у поле скаціну. На стале засталіся адны аб'едкі.



**Стрэльба.**

„А што, брат, ці добра б'е твая новая стрэльба?“ „Вельмі добра! Учора з паліцы ўпала і пяць гаршкоў разьбіла“.

## Над калыскай.

Над калыскай матка ночку каратае: мілага сыночка цешыць, забаўляе.

„Сьпі, маё дзіцятка! Сьпі, маё любое!“

„О! Пятрусь харошы! Любяць ўсе Пятруся: любіць яго тата, любіць і матуся. Купіць тата Пётру боцікі на ножкі. Пойдзе мой сыночак пракладаць дарожкі. Новую кашульку я табе пашыю, ў цёпленькай вадзіцы чысьценька абмыю,—будзеш ты харошы! Цётка не пазнае:

— А чый гэта хлопчык?—дзядзька папытае. Ўсе дзівіцца стануць і хваліць Пятруся.

— Гэта я!—ты скажаш,—я, сынок Габруся“.

**Прыказка:** У каго ёсьць матка, у таго й галоўка гладка.

# Пасьля лемантара.

## Мае забавы.

Па даліне, па лужочку
Езьдзіць я люблю.
Я з дубовага кіёчка
Коніка зраблю.

Гайда, гайда, буланенькі,
Аж у цёмны бор!
І ляціць кіёк мой ценькі,
Проста, як віхор.

Аж дрыжыць, шуміць зямліца,
А я скок і скок.
А са мною весяліцца
Жучка, мой дружок.

## Дарожка.



Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Дарожка крывая,
Кабылка малая.

**Пытаньне:** Каму гэтак кажуць?



## Катоk сам цягне.

Кажа маці да Ганульке:

— Ганулька, нашто ты цягнеш катка за хвосьцік, гэта-ж яму баліць!

— Я, мамачка, не цягну, а толькі трымаю за хвосьцік, а каток сам цягне.

## Маленькая песьня.



А-а, а, а, люлькі!
Пашоў кот у дулькі,
Памарозіў лапкі,
Узьлез на палаткі;
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.

## Палячыў.

Пытаецца матка: „Антоська, дзе тваё лякарства на вочы?“ „А я даў яго выпіць малому Янку, бо яму дужа жывот баліць“.

**Пытаньне:** Ці добра зрабіў Антоська? Папрасеце настаўніка напісаць і павесіць на сьцяне плякат аб здароўі.

# Курка.

Быў сабе дзедка, была сабе бабка. Была



ў іх курка рабка. Нанесла яец—повен карабец. Дзед біў, біў—не разьбіў, бабка біла, біла—не разьбіла. Мышка бегла, хвосьцікам матнула ды пабіла ўсе яечкі. Дзедка плача, бабка плача, курачка кудакча, вароты скрыпяць, сабакі брэшуць, людзі гаманяць.

# Дзіцячая песьня.

Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры;
Селі на варотах
У чырвоных ботах;
Сталі сакатаці,
Што дзіцяці даці:
Каня варанога,
Быка палавога,
Цялушку рабушку
Дзіцяці на юшку.

*Каток*

*Пашоў каток у лясок, знашоў ко-
ток паясок, а кошачка адняла і
дзіцяці аддала. Пашоў каток ко-
таржок, знашоў каток піражок.
Ці самому есьці, ці дзіцяці несь-
ці? І сам трошкі укусіў і дзі-
цяці прынасіў.*

## Кароткая гутарка.

Нeяк пякла маці аладкі, а малы Янка круціцца ўсё каля яе дый кажа:

— Чаму ты, мамка, са мною не гаворыш?

— Бачыш-жа, што часу няма, — адказвае маці:—ды што-ж я там буду табе гаварыць?

— Ну, хоць што... от сказала-б: на табе, Янaчка, аладачку!

**Прыказкі:** Што каму рупіць, той аб тым і жупіць. Дзіця ня плача, маці не дагадаецца.

# Стэфчына казка.

Стэфачка кажа сваей маме:
— Мама, любіш ты слухаць казкі?
— Люблю, дзетачка.
— Можа хочаш, каб я табе сказала казачку.
— Скажы, я вельмі хачу паслухаць.
— А ці спадабаецца яна табе?
— Напэўна спадабаецца.
— Яна вельмі кароценькая.
— Да ты кажы ўжо...

— Добра, буду казаць. Была сабе раз паліваная місачка і стаяла яна на стале, а я... зачапіла неяк, дык яна ўзяла й пабілася.

**Прыказкі:** 1. Ня так шкода, як нявыгода.
2. Што галава, то розум.

## Бай.



Ішоў Бай па сьцяне
Ды ў чырвоным жупане;
Нёс семера лапцей:
І сабе, і жане,
І дзяцёнку па лапцёнку.

# Гаспадарны хлапец.



— Паіў ты каня?
— Паіў.
— Чаму-ж у яго морда сухая?
— А, бо вады не дастаў!

Раскажэце, як вы даглядаеце хатнюю жывёлу.

**Прыказка:** Не гані каня дубцом,
а гані аўсом.

# Сарока.

Сарока, варона, на прыпечку сядзела, дзеткам кашу варыла, апалонікам мяшала, дзетак карміла: от гэтаму дам і гэтаму дам і гэтаму дам, а гэтаму ня дам, гэты абібок, гультай, круп ня драў, дроў ня сек, вады не насіў, у печы не паліў.

Ідзе пальчык па вадзіцу ў сьцюдзёную крыніцу. Тут пень, тут калода, тут крыніца і сьцюдзёная вадзіца.




# Школа.

Прышла Марылька са школы. Пытаецца ў яе маленькі брат: „Што вы робіце ў школе?“ Марылька сказала: „Мы вучымся ў школе чытаць, пісаць, лічыць, рысаваць і ляпіць“. А брат пытае: „Нашто вы гэтаму вучыцеся?“ „Каб быць разумнымі“, адказала Марылька.

# Сваё й чужое.

Вучэцеся, браты мае,
Думайце, чытайце;
І чужому вучэцеся
І свайго ня цурайцесь.

Ня цурайцеся вы слова,
Што маці пяяла,
Як малога калыхала,
З малым размаўляла.

# Як мы зрабілі плян нашай клясы.

Сягодня мы зрабілі мэтр.

Мэтрам мы мералі даўжыню і шырыню нашай клясы.

Наша кляса ў даўжыню мае 10 мэтраў, а ў шырыню 7 мэтраў.

Пасьля мы нарысавалі плян клясы.

Вось так:

Даўжыня 10 мэтраў—10 клетак.

Шырыня 7 мэтраў.



Адну клетку мы лічылі за мэтр.

## Сход.

Мы зрабілі сход. Старшынёй сходу мы абралі Рыгора Лагуна. Рыгор Лагун кіраваў сходам і даваў гаварыць кожнаму па чарзе. На сходзе мы пастанавілі:

1. Прыходзіць у школу не пазьней 9 гадзіны. Хто спозьніцца або зусім ня прыдзе, тых адмячаць на асобным аркушы паперы.

2. Захоўваць у школе парадак, ня крыўдзіць адзін аднаго, ня біцца і ня лаяцца.

3. Для нагляду за чыстатой у школе выбраць санітарам Юльку Семянюк.

Пастановы сходу для кожнага з нас абавязковы.

## Плякаты.

Наш школьны санітар, Юлька Семянюк, напісала й павесіла на сьцяне вось гэтакія плякаты:

**ПЛЯКАТ АБ ЧЫСТАЦЕ.**

1. **Не рабі сьмецьця.**
2. **Вымывай чыста рукі, вушы і галаву.**
3. **Часта купайся.**
4. **Часта зьмяняй сарочку.**
5. **Праветрывай пакой.**
6. **Выцірай пыл мокрай анучай.**

**ПЛЯКАТ АБ СЬНЕ.**

1. **Сьпі 10 гадзін у суткі.**
2. **Не накрывайся з галавой.**
3. **Праветрывай пасьцель.**
4. **Захоўвай пасьцель у чыстаце.**

**Загадка:** Няма ног, а хаджу,
Няма рота, а скажу,
Калі вам спаць,
Калі ўставаць.



**Якая гадзіна на гэтым гадзіньніку?**

## Каляндар на сьнежань.

Прышоў месяц сьнежань.

Мы зрабілі новы каляндар пагоды. Падзялілі аркуш паперы на 31 клетку, бо ў сьнежні 31 дзень.

Зьверху надпісалі **сьнежань.**

А ў кожнай клетцы паставілі чысло.

Пагоду на календары мы адмячаем гэтак:




**Ясна. Хмарна. Сьнег. Пераменна.**

Каляндар мы аздобілі нашымі малюнкамі зімы.

Апрача календара пагоды, мы яшчэ вядзем каляндар прыроды

## Дні тыдня.

Панядзелак, Аўторак, Серада, Чацьвер, Пятніца, Субота, Нядзеля.

## Месяцы.

Студзень, Люты, Сакавік, Красавік, Травень, Чэрвень, Ліпень, Жнівень, Верасень, Кастрычнік, Лістапад, Сьнежань.



## Зіма.

Мяккі сьнег лятае пухам,
І канца яму няма,
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма.

Зачыняйце шчыльна хату,
Каб ня дзьмулі халады;
На вакно пляцеце мату,
Каб ня клаў мароз сьляды.

Даставайце з вышак сані,—
Гайда сьцежкі праціраць,
І па белым акіяне
Ўдоўж і ўпоперак гуляць.

## *Вясна.*

*Сонца грэе, прыпякае; лёд на рэчцы затрашчаў. Цёплы вецер павявае, хмар дажджлівых нам прыгнаў. Вось і бусел паказаўся, гусі дзікія ляцяць, шпак на дубе расьсьпяваўся, жураўлі ужо крычаць. І зіма, як дым, прапала! Зелянее луг, поля. Як ад бою ачуняла наша родная зямля!*

## Разумная варона.





Захацелася вароне піць. Знашла яна недзе пад хлевам гладыш з вадою, але вада ў ім была толькі на самым дне, і варона не магла яе дастаць. Тады яна надумалася кідаць у гладыш каменчыкі. Хутка яна гэтулькі каменчыкаў. накідала, што вада паднялася ўгару, і вароне можна было напіцца.

# Салавейка.

Весела ў кусьціку сьпяваў салавейка. Але дзеці злавілі яго і пасадзілі ў клетку. Салавейку было нудна. Ён перастаў сьпяваць і нічога ня еў. Шкода стала дзеткам салавейкі, і яны яго выпусьцілі на волю. Салавейка сеў на яблыню пад вакном і весела засьпяваў.

**Прыказка.** Добры чалавек і жывёлу шкадуе.

# Зайздросны сабака.

Бег Лыска праз рэчку па кладцы, а ў зубох нёс кавалак мяса.



Глянуў уніз, аж у вадзе другі такі самы сабака і таксама нясе кавалак мяса. Стала Лыску зайздросна, кінуўся ён у рэчку адбіраць чужое мяса, а сваё з зубоў выпусьціў і згубіў.

**Пытаньне:** Які гэта быў сабака ў вадзе?

**Прыказка.** Паквапішся на чужое, дык і сваё страціш.

# Увесну.

Грэе сонца, сьвеціць сонца,
Блішчаць кветкі і трава.
Ўсюды радасьць, гул бясконца,
Пяюць жабы: „Ква-ква-ква“.
Шэпчуць дрэвы, журчыць рэчка,
Квокчуць куры на дварэ.
Скок і скок на луг авечка,
Забляяла: „Мэ-мэ-мэ“.
Дзеткі-птушкі вядуць гулі
На бярозавым суку.
Вясну кліча птах-зязюля,
Зычна кліча: „Ку-ку-ку“.
Матылёчак, як вясёлка,
Мігаціць пад гэты шум.
А над краскай гудзе пчолка,
Бае байкі: „Зум-зум-зум“.
Як жывыя—гай, шнурочкі,
Мёдам пахне ўся зямля.
А хлапчына на лужочку
У сьвісьцёлку: „Тра-ля-ля!“

# Гліняныя цацкі.

Прывёз бацька з гораду для малога Сымонкі глінянага салдаціка. Цэлы дзень гуляў Сымонка з салдацікам, а пасьля ўпусьціў і разьбіў яго. Сядзіць Сымонка й плача, а ў прыполе сарочкі кавалачкі разьбітага салдаціка.



Прышоў са школы яго старэйшы брат Юзік і пытае: „Чаго ты, Сымонка, плачаш?“ — Цацку разьбіў. „Ну, ня плач, я табе другога зраблю. Я ў школе такога чырвонаармейца зьляпіў, што нават настаўніца пахваліла“.

Намясіў Юзік гліны, добра яе расьціснуў і зьляпіў Сымонку салдаціка. Сымонка просіць яшчэ, каб многа было. Юзік зьляпіў яшчэ некалькі штук, пасьля зьляпіў каня, сабаку й кошку. Калі цацкі высахлі, Юзік выбеліў іх крэйдай і размаляваў каляровым алоўкам, вышлі цацкі ня горшыя ад купленых.

Сымонка быў вельмі рады. Назаўтра каля яго сабралася цэлая грамада дзяцей, якім таксама цікава было паглядзець на цацкі.

---

Ці вучаць вас у школе ляпіць? Што вы ўмееце ляпіць?

# Коопэратыў.

У нашай вёсцы ёсьць коопэратыў.

У коопэратыве сяляне купляюць соль, алей, газу, гвазды, коопэратыў ад сялян купляе рознае збожжа. Коопэратыў свае тавары прадае дзешавей, а за сялянскія плаціць даражэй.

У гэту вясну коопэратыў прывёз для сялян вось гэткія сельска-гаспадарчыя машыны й прылады:





СЕРП



ЖНЯЯРКА



СЕЯЛКА



АРФА



МАЛАТАРНЯ

# Венік.

Бацька колькі разоў казаў сваім сыном, каб яны жылі ў згодзе, але яго ня слухалі. Вось аднаго разу бацька прынёс венік дый кажа: „Пераламеце!“

Колькі сыны ні тужыліся, але веніка пераламаць ня здолелі. Тады бацька разьвязаў венік і загадаў ламаць па аднаму дубцу. Сыны пераламалі ўсе дубцы.

Бацька й кажа: „Гэтак-жа й з вамі. Калі будзеце жыць у згодзе—ніхто вас ня здужае, будзеце спрачацца—усякі пакрыўдзіць“.

*Ваверка.*

*У лесе на яліне жыла ваверка. У ваверкі ў хайлуку былі дзеткі. Ваверка карміла дзетак і спала з імі. Раз прышлі ў лес Янка й Пятрусь. Яны злавілі ваверку й прынеслі да дому. Прапалі бяз маткі дзеткі ў лесе. Памёрла й ваверка ў нявалі.*

Жытні колас.

На саломцы тонкай у траве глухой спее-даспявае колас сіратой. Сушыць яго сонца, клоніць вецярок, ные сірацінка, плача каласок. Плача, што няма з кім думку разьдзяліць, нудную галоўку ціха прыхіліць: што яго зярняткі птушкі падзяўбуць, белую саломку ветры разьнясуць.

## Мама.

На рынку неяк адбілася ад маткі дзіця дый заблудзілася паміж народам. Плача, беднае, бегае, шукае маткі. Пытаюцца ў яго людзі: „Якая-ж твая мама, дзетка?“ А яно скрозь слёзы й кажа: „Хіба-ж вы ня ведаеце? Мая мама за ўсіх дабрэйшая й прыгажэйшая“.

**Прыказка.** Няма тэй крамкі, дзе-б прадаваліся родныя мамкі.

# Дзед і яблыня.



Дзед садзіў яблыню. А яму кажуць: „На што табе гэтыя яблыні? Доўга ад іх трэба будзе чакаць яблык, і ты не зьясі ніводнага“. Дзед адказаў: „Ня я зьем, дык другія зьядуць, а мне дзякуй скажуць“.

# Усе за аднаго і адзін за ўсіх.

## (Казка).

Быў сабе дзед Іванка, а ў яго баба Маланка, а ў бабы дачка Варка, а ў дачкі сучачка Малка, а ў сучачкі кошка Бурка, а ў кошкі мышка Шэрая Шкурка.



Раз вясною ўзяў дзед жалязьняк ды матыку, ускапаў на гародзе градку вяліку, гноем трохі прывярнуў, грабелькамі прыгарнуў, пальцам дзірку зрабіў—дый рэпку пасадзіў.

Дзедава праца ня марна была: добрая рэпка ўзышла. Што-дзень ішоў дзед на гарод, набраўшы вады повен рот, сваю рэпку паліваў, да жыцьця ёй ахвоты дадаваў.

Расла дзедава рэпка, расла! Зразу такая, як мышка, была, пасьля—як кулак, пасьля—як бурак, пасьля—як два, урэшце, як дзедава галава.



Цешыцца дзед, аж ня знае, як стаць. „Час, кажа, нашу рэпку рваць!“ Пашоў ён на гарод—гуп, гуп! Узяў рэпку за зялёны чуб; цягне рукамі, упёрся нагамі, напінаецца, бы кавальскі мех, аж проста бярэ сьмех,—мучыцца, пацее ўвесь дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча дзед бабу Маланку: „Хадзі, бабуля, не ляжы, мне вырваць рэпку памажы!“ Пашлі



яны на гарод—гуп, гуп! Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за плячо, а рэпка хоць-бы што. Тузае дзед рэпку за націну, тузае дзеда баба за сьпіну, працуюць рукамі, упіраюцца нагамі, абліваюцца потам, а рэпка што там,—прамучыліся цэлы дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча баба дачку Варку. „Хадзі, донька, не бяжы, нам вырваць рэпку памажы!“ Пашлі яны



на гарод—гуп, гуп! Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за сарочку, дачка бабу за зборачку; цягнуць рукамі, упіраюцца нагамі, прамучыліся цэлы дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча дачка Малку: „Хадзі, Малачка, не бяжы, нам рэпку вырваць памажы!“ Пашлі яны на гарод—гуп, гуп!



Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за паясьніцу, дачка бабу за спадніцу, дачку сучка за сукенку—прамучыліся цэлы дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча сучка кошку: „Хадзі, кошка, не ляжы, нам вырваць рэпку памажы!“



Пашлі яны на гарод — гуп, гуп! Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за паясьніцу, дачка бабу за спад-

ніцу, дачку сучка за касьнічок, кошка сучку за хвасток, цягнуць і рукамі й зубамі, упіраюць нагамі; прамучыліся цэлы дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча кошка мышку: „Хадзі, мышка, не бяжы, нам вырваць рэпку памажы!“ Пашлі яны на гарод—гуп, гуп! Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за паясьніцу, дачка бабу за спадніцу, сучка дачку за касьнічок, кошка сучку за хвасток, мышка кошку за лапку, як шмарганулі, як пацягнулі—вырвалі рэпку дый пакаціліся.



Упала рэпка на дзеда Іванку, дзед на бабу Маланку, баба на дачку Варку, дачка на сучку Малку, сучка на кошку Бурку, а мышка—шусь у дзюрку!

**Пытаньне:** Якія вы ведаеце казкі?

# ЯК ЛЮДЗІ ЕЗЬДЗЯЦЬ



НА ВАЛОХ



НА КОНЯХ



НА САНЯХ



НА ВЭЛЁСЫПЭДЗЕ



НА САМАХОДЗЕ



НА ТРАМВАІ



ПА ЧЫГУНЦЫ

# ЯК ЛЮДЗІ ПЛАВАЮЦЬ



НА ПАРОМЕ



НА ПЛЫЦЕ



НА ЧОЎНЕ



НА ПАРАХОДЗЕ

# ЯК ЛЮДЗІ ЛЁТАЮЦЬ



НА БАЛЁНЕ



НА ДЫРЫЖАБЛІ



НА САМАЛЁЦЕ




## Сьцёпка і Янка.

Вясёлы Сьцёпка прыбягае да свайго таварыша Янкі і з радасьцю яму кажа:

— Слухай, Янка, аб чым я даведаўся. Каб зрабіцца піянэрам, трэба:

рана ўставаць,
мыць рукі,
мыць вушы,
чысьціць зубы.

Іду запісацца...

— Да ты, Сьцёпка, пачакай, гэта яшчэ ня ўсё,—адказвае Янка.

— Каб быць піянэрам, трэба апрача гэтага яшчэ ўмець:

**працаваць,**
**гаварыць заўсёды праўду,**
**ня курыць,**
**ня лаяцца**
**і быць прыкладам для ўсіх дзяцей.**

А хіба-ж ты такі?

Сьцёпка спусьціў галаву і задумаўся...

— Не, я яшчэ не гатовы...

Але я буду гатовы...

Я буду піянэрам, буду маладым ленінцам.

---

## ПІЯНЭР! БУДЗЬ ГАТОВЫ!

## Зьмена на зьмену.

Комуністым ідуць на зьмену комсамольцы.

Камсамольцам ідуць на зьмену піянэры.

Піянэрам зьмена—акцябраты.

Зьмена зьмене ідзе.

---



**ЛЕНІН.**

**(Вялікі правадыр рабочых і сялян).**

## Куток Леніна.




Дзеці пастанавілі зрабіць у школе куток Леніна.

У кутку павесілі ў чырвонай раме ва ўвесь рост портрэт Леніна.

На століку каля портрэту паставілі кветак.

На сьцяне наклеілі малюнкі на чырвоным.

Павесілі насьценную газэту. Шмат вершыкаў, расказаў і ўсё аб Леніне.

Прышоў комсамолец Якуб.

— Якуб, Якуб,—кінуліся да яго дзеці,—паглядзі наш куток Леніна.

Якуб паглядзеў і пахваліў.

Вочы ў дзяцей заблішчалі ад радасьці.

# Просьба кніжкі.

— Ці ведаеце вы, што сказала-б вам кніжка, каб яна ўмела гаварыць?

Яна-б сказала:

1. Не перагінайце мяне старонкамі назад. Гэта псуе маю аправу.

2. Ня кідайце мяне, дзе папала, бо йначай я хутка падзяруся.

3. Не кладзеце ў мяне ручак, алоўкаў і нажоў. Гэта вельмі псуе мяне.

4. Не рабеце на мне ніякіх надпісаў і малюнкаў.

5. Бярэце мяне чыстымі рукамі.

6. Памятайце, што я хачу быць чыстай і цэлай.

**ШАНУЙЦЕ КНІГУ!**

**ЧЫТАЙЦЕ ДОМА НЯГРАМАТНЫМ!**



# Песьня „Чырвоных Зорак“.

Стала восем мне гадоў,—
Піяпэрам быць гатоў.

Макі, макі, маковачкі,
Чырвоныя мы Зорачкі.

Піянэрскі наш атрад
Для усіх дзяцей прыклад.

Макі, макі, маковачкі,
Чырвоныя мы Зорачкі

Піянэр заўжды гатоў
Падмяніць сваіх бацькоў.

Макі, макі, маковачкі,
Чырвоныя мы Зорачкі.

Будзем сябе рыхтаваць,
Піянэрамі каб стаць.

Макі, макі, маковачкі,
Чырвоныя мы Зорачкі.

Піянэры малайцы,
Нашы родныя браты.

Макі, макі, маковачкі,
Чырвоныя мы Зорачкі.

## Беларуская марсэльеза.

Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі,—
Мы знаем, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў забіць.

Што гэта за марная доля няшчасная,
Бяз хлеба, бяз грошай працуй.
Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца,
Ну проста хоць крыкні: „Ратуй!“

Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
Здаецца, панамі іх зваць.
Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня будзем
І пойдзем мы долі шукаць.

Дружна мы ўстанем з касамі, з сярпамі,
Прагонім з зямлі палачоў.
Няхай нас сустрэнуць палямі, лясамі
Грамады працоўных людзей!

# МІЖНАРОДНЫ ГІМН.

Паўстань, пракляцьцем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух.
Бурліць наш розум ўзбунтаваны.
Няволі кліча рваць ланцуг.
Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І сьвет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым, той будзе ўсім!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасьці братняй
Узьняўся людзкі род.

Ніхто ня дасьць самохаць волі—
Ні бог, ні цар, ні багатыр,
Даб'ёмся самі лепшай долі,
Дабро для ўсіх—наш правадыр!
Каб ня згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас—
Адважна плаўма сталь у горнах,
Пакуль у кузьні жар ня згас!

Мы ўсе работнікі, сяляне—
Сусьветны рой працаўнікоў—
Мець будзем на зямлі ўладаньне,
А дармаеды—прэч! далоў!
Жывіцца целам нашым годзе
Усім трутнём і груганом!
Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,
Сьвяціць нам будзе век вяком.

## Для пісаньня.

Перапісаць словы з першага аддзелу і дадаць да іх адпаведныя словы з другога аддзелу.

1. Настаўнік... Вучань... Каваль... Маляр... Шавец... Касец...

2. шые... вучыцца... малюе... вучыць... косіць... куе...

Узор: Вучань вучыцца.

1. Сахой... Бараной... Цэпам... Касой... Сярпом... Граблямі... Плугам... Нажом... Пілою... Таўкачом...

2. малоцяць... пішуць... грабуць... аруць... піляць... баранують... рэжуць... жнуць... таўкуць... косяць...

Узор: Пяром пішуць.

1. Мы вачамі... Мы носам... Мы вушамі... Мы зубамі... Мы нагамі... Мы рукамі...

2. нюхаем... жуём... глядзім... слухаем... працуем... ходзім...

Узор: Мы рукамі працуем.